№ 73 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 73 (165). Год II. Вільня, 11 верасьня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Перэварот у Расеі.

**Пецярбурскае Тэлеграфнае агенцтво апавешчае:**

**Міністр-прэзыдэнт Керэнскій выпусьціу гэткую адозву:**

**„8 верасьня у Пецярбург прыбыу член Думы Львов і зажадау у мяне ад імі генэраліссімуса Корнілова аддаць апошняму усю военную і цывільную уласць; ён хочэ утварыць новае правіцельство паводлуг свaей думкі. Правільнасць гэтаго жаданьня Корнілов пацьвярдзіу мне тэлеграфным паведамленьнем на імя гэнэральнаго штабу. Бачучы у гэтым спробу некаторых слаёу насяленьня вытварыць палажэньне, нязгодлівае са здабычамі рэволюціі, тымчасовы урад у імя баспечнасьці і свабоды рэспубліканскаго упрауленьня загадау мне учыніць крокі дзеля ахраны вышэйшай уласьці і рэволюціі. Крокі, каторые я загадываю, будуць апавешчэны пазьней. Цяпер я загадываю:**

**1) Генэралу Корнілову — аддаць каманду генэралу Клембовскаму, начальніку арміі, каторая бароніць Пецярбург; Клембовскі атрымлівае правы глаунакамандуючаго, але астаецца у Пскове.**

**2) Аб'яуляю Пецярбург на военным палажэньні і прызываю грамадзян паддзержываць лад, а армію і флот—бараніць Бацькаушчыну ад замяжовых ворагоу“.**

ГЭЛЬСІНГФОРС. На вялікім сходзі салдатоў і матросаў выстаўлено жаданьне вярнуць на трон «крываваго Мікалая», калі Расея ня можэ ўжо абыйсьціся без дыктатара.

---

ЖЭНЕВА. «Petit Journal» пішэ, што расейская глаўная каманда пяройдзе ў рукі военнай рады, каторая мае складацца з Рузскаго, Алексеева, Брусілова і Дмітрыева.

ЖЭНЕВА. С Пецярбурга даносяць, што там аб'яўлено военнае палажэньне. Міністры старога рэжыму будуць вывезены на Волгу. Арэштаваных вялікіх князёў с прычыны прыпадкоў на паўночным фронці вывозяць у Сібір,—здаецца, гэтак сама ў Табольск.

ПАРЫЖ. У Табольск прыехаў новы ўрадовы камісар, Панкратов, б. ссыльный у Сібіры. Ен прыняў на сябе адказ перад урадам за сям'ю б. цара, дзеля ахраны каторaго назначэны ў Тобольск 300 стральцоў, ахраняўшых раней б. цара ў Царскім Сяле.

ЖЭНЕВА. З Ліссабону даносяць, што там і ў правінціі узняўся рэволюцыйны рух.

ЛЮГАНО. «Giornale d' Italia» пішэ:

Социялістычная партыя шырыць массамі рэволюцыйные проклямаціі проці ураду і гасударства. У іх прызываюць работнікоў і селян пайсьці па сьладох Расеі. Да руху проці вайны прылучыліся вясковые ксяндзы.

МАДРЫД. У Забадэлі узняліся крывавые разрухі. Каб спыніць іх, трэбало пусьціць у ход артылерыю.

НЬЮ-ІОРК. Рух за мір нестрымана узрастае па ўсей Амэрыцэ. Чысло членаў социялістычнай партыі павялічылося ад 100.000 да 400.000. Нованаладжэны саюз дзеля змаганьня за мір мае ўжо два мільёны членаў.

БЭРН. Нарада француcкай социялістычнай парлямэнцкай групы, на каторай ішла гутарка аб учасьці социялістоў у новым габінэці, прайшла вельмі бурна. У канцы была прыньята рэзолюція, ў каторай высказываецца гатоўнасць працаваць з урадам у такім прыпадку, калі будзе забаспечэна грамадзкая воля і правы работнікоў, калі будуць пакінуты способы тайнай дыплёмаціі і будуць выстаўлены ўмяркаваные военные мэты.

ЦЮРЫХ. Амэрыка маніцца дзеля военных патрэб пабудаваць у Франціі ад Бордо да фронту чыгунку с чатырма парамі рэльсоў.

## На два фронты.

Расейскі тымчасовы ўрад вядзе цяпер унутрэную вайну да двох фронтах: проці рад работнікоў і салдатоў — з аднаго боку, проці монархістычнай контр-рэволюціі— з другога.

Мы ўжо друкавалі вестку з Расеі аб тым, што тымчасовы ўрад скасаваў усе прывілеі рады раб. і салд., а ў тым ліку нетыкальнасць асобы членаў яе. Гэта—запаведзь таго, што у прыпадку далейшай нязгодлівасьці між радай раб. і салд. і урадовай палітыкай урад не затрымаецца перад самымі станоўчымі крокамі, каб зламаць з гэтаго боку апор. Гэта паказвае і тон расейскіх газэт, паддзержываючых урадовую палітыку, каторые, як даносіць В. Т. Б., с прычыны прыпадкоў пад Рыгай востра нападаюць на рады раб. і салд., ускладаючы на іх усю віну за неўдачы. І пецярбурская рада ўжо ўчыніла крокі дзеля таго, каб цясьней згуртаваць свае сілы, ладзючы камітэт дзеля абароны рэволюціі.

З другого боку тымчасовы ўрад энэргічна выступіў проці монархістоў. Мы ўжо пісалі аб выкрытай монархістычнай змове, каторая мела на мэці узвясьці на трон брата скінутаго цара, Міхаіла Александравіча. Цяпер, паводлуг П. Т. А., урад загадаў дзержаць пад арэштам у іх кватэрах вялікіх князёў Міхаіла Александравіча і Паўла Александравіча, каторых маніцца вывязьці ў адну с сібірскіх губэрній. «День» і «Нов. Жізнь» даносяць, што пад арэштам апынуўся і вял. кн. Дзімітры Паўлавіч.

Само сабой разумеецца, што, каб вясьці гэткую унутрэную вайну на два фронты ў часі вайны з замяжовымі ворагамі, трэба мець незвычайна вялікую сілу. Чы тымчасовы урад папраўдзі мае яе?

На гэта адказаць трудна: мы не знаем, які цяпер праўдзівы уклад грамадзкіх сіл у Расеі. Адно можэм сказаць: тымчасовы ўрад верыць у сваю сілу, бо толькі гэткай верай можна растлумачыць яго выступленьня.

Як бы там ні было, ёсць знакі, што тымчасовы ўрад прыгатаўляецца да нейкаго новаго станоўчаго кроку. Можэ быць, што гэта будзе звязано с пераездам ураду у Маскву: на гэта паказвае пераезд с Пецярбурга ў Маскву ўсіх пасольств. І мо' там, у Маскве, пачнецца «новы курс»?

*І. М.*

---

## На Украіне.

Паводлуг газэтных вестак, новы галава украінскаго міністэрства—Дмітро Дорошэнко.

Дмітро Дорошэнко—гэта адзін з найбольш чынных дзеячоў украінскаго руху ў расейскай Украіне, здольны пісьменнік, шмат працаваўшый над гісторыей сваей Бацькаўшчыны. Скончыўшы унівэрсытэт, ён некольки гадоў занімаў мейсцо вучыцеля гісторыі ў сярэдніх школах на Украіне, але за свае пераконаньня быў выдален са службы старым расейскім урадам. С таго часу, заняўшы мейсцо бібліотэкара ў кіеўскай публічнай бібліотэцы, ён усе свае сілы аддае украінскай культурнай і палітычнай рабоці. Рэволюцыйны урад назначыў Дорошэнка камісарам у тую часць Галічыны, каторую ў момэнт узрыву рэволюціі занімалі ешчэ расейцы,—і тут Дмітро Дорошэнко выявіў свае адміністрацыйные здольнасьці.

Маладые гады новаго галавы украінскаго міністэрства звязаны з Вільняй: тут жыў некольки гадоў яго бацька, і малады Дмітро вучыўся ў віленскай гімназіі. Тут жэ ён вельмі зжыўся з беларусалі і пазьней, ужо скончыўшы унівэрсытэт, блізка кожын год адведываў сталіцу Беларусі і Літвы, праводзячы час у нарадах с тутэйшымі беларускімі дзеячамі. Дорошэнко знае добра беларускую мову, знае беларускі рух і маладую беларускую літэратуру, чаго давёў, выпускаючы па украінску брашуру сваю «Білоруси і іх національне відродження», — Кіеў, 1908 г., каторая пасьля была перэтлумачэна на беларускую мову і надрукована ў № 4 1909 г. «Нашай Нівы».

Шчыры спогад беларусам, трэба думаць, выявіцца у Дорошэнкі і цяпер — на новым становішчы: беларуская справа, асабліва ў межах Расеі, вельмі цесна звязяна з украінскай, і з гэтай прычыны між цяперашнім украінскім міністэрствам і беларускімі палітыкамі с таго боку фронту пэўне установяцца блізкіе зносіны.

## У Вільні і ваколіцах.

× **Праявы грамадзкага жыцьця.** Перэжываны момэнт вызваў значнае ажыўленьне ў палітычным жыцьці нашаго места. Апрыч цэлаго раду выступленьнёў розных нацыянальнасьцей, як мэмор'ялы, рэзолюцыі і т. п., гэтымі днямі адбыўся цэлы рад нарад аб сучасным палажэньні.

У нядзелю, 9 верасьня, адбылася літоўская нарада, скліканая левай групай літвіноў. Ізноў-жэ ў канцы гэтаго тыдня мае адбыцца людны інтэрнацыянальны сход у салі Работніцкаго Клюбу пры Вароньняй вул. 5.

× **Восенные клапоты.** Восень ідзе ўжо шыбкімі крокамі, а разам з ей расьце число патрэб першай вагі, каторые асабліва цяжка здаволіваць местовай беднаце і тым установам, каторые маюць на мэці аказваць ей помач.

Першая патрэба—гэта патрэба апалу. У летку было добра: агрэвало нас—і то добра!—сонцэ, а гарачую страву людзі бралі з народных стравень, дык і дроў блізка зусім не было трэба. Цяпер, с прыходам халадоў, народные страўні ніякаго ратунку не дадуць, бо і не гатуючы стравы дома трэба будзе паліць у печы, каб не замерзнуць. І калі прыпомнім, сколькі бедных дзяцей адмарозіло сабе ў тую зіму рукі і ногі у сваіх жэ хатах, дык зразумеем, якую вагу мае сёлета справа апалу.

Другая справа, каторая жджэ свaей развязкі, гэта справа абутку і цёплай адзежы — асабліва для дзяцей. Мала таго, што цэны за ўсё такіе, што беднаму чэлавеку ні да чаго нельга даступіцца: не хватае і самаго тавару, яго німа дзе купіць.

У вялікім клапоці апынуўся з гэтай прычыны Беларускі Камітэт пом. пац. ад вайны. Ледзьве-ледзьве зводзячы канцы с канцамі, каб карміць кала 200 бедных дзяцей ды значнае чысло іх няздольных да працы бацькоў, Камітэт ня ў сілах надзяліць гэту беднату цёплай адзежай і ботамі і з гэтай прычыны працуе цяпер над тым, каб з якой-калечы крыніцы здабыць патрэбные на гэта грошы. Ці нашэ грамадзянство паможэ яму ў гэтым?..

× **Выстаўка маляроў Об Ост.** Пасьля адкрыцьця ў суботу выстаўкі «маляроў Об Ост» пры нямецкай уласьці і прэдстаўніках тутэйшаго грамадзянства ўход на выстаўку, устроенную у 12 пакоях, адкрыт для ўсіх.

× **С камісіі аб цэнах.** На апошнім заседаньні камісіі дзеля установкі цэн высказываліся жальбы на таргоўцаў, каторые маюць вялікіе склады тавароў ешчэ ад мірнаго часу і распрадаюць іх за незвычайна вялікую цану. Многа жалаб было на хэмічные прачкарні, каторые страшэнне дзяруць за мыцьцё і чыстку бялізны і апраткі. Прыпраў у Вільні блізка зусім нельга даставаць, і іх прыходзіцца заменяць цыбуляй, вялікіх партый каторай ждуць і каторая ўжо прадаецца ў местовых крамах.

× **Падвоз рыбы.** С прычыны паніжэньня тэмпэратуры узрос падвоз рыбы. На рынку прадаюць рыбу ад 8 гадз. раніцы.

× **Двайное душэгубство.** У начы з мінуўшай серады на чэцьвер у сваей кватэры пры Кіеўскай вул. 15 забіты дзьве кабеты.

Шукаюць кабету ад 40 да 50 гадоў (польку), каторая вечарам перад забойствам заходзіла у кватэру забітых.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 5—6 | + 14° | + 9° |
| 6—7 | + 17° | + 2° |
| 7—8 | + 18° | + 1,5° |
| 8—9 | + 22° | + 14° |

## Офіцыальны аддзел.

Вільна, 00 верасьня 1917 г.

### Апавешчэньне

**аб найме работнікоў.**

Дзеля будовы чыгункі Шастако-Кальварыя патрэбны рабочые сілы — мужчыны і кабеты. Заяўляцца можна у крэйсамце. Плата прыстаўшым на работу гэткая:

а) для падросткаў да 18 гадоў — 1,50—2,00 м.

в) для работніц — 1,70—3,00 м.

с) для сталых работнікоў — 2,50—3,80 м.

Даюцца: кватэра і страва.

За страву вылічаецца с платы 1 м.

Рабочы дзень — ня болей 10 гадзін. Пры дадатковай працы плацімуць за кожную лішнюю гадзіну 10% дзеннай платы.

У прыпадку хваробы або нешчасьця будуць выдаваць падмогу залежне ад варункоў. Апрыч таго будзе зроблено ўсё дзеля аказваньня безплатнай лекарскай помачы і дачы лекоў.

Будуць дапушчэны пісьменные зносіны са сваякамі і пасылка грошы сем'ям.

У асаблівых здарэньнях, заверэных уласьцю, або пасьля даўжэйшай сумленнай працы можэ быць дадзен одпуск да хаты з безплатным праездам чыгункай.

Militär-Eisenbahn-Direktion 5 Wilna.

## З усяго Краю.

**Жаданьне палякоў.**

Дэпутація з Вільні і Коўны аддала польскаму клюбу ў Вене мэмор'ял палякоў з Літвы, каторые жадаюць, каб цэнтральные дзержавы аб'явілі незалежнасць Літвы і злучылі бы яе с Польшчай.

---

БЕЛАСТОК. Калі расейцы пакідалі Беласток, дык разам з імі пакінула место большая часць праваслаўнаго насяленьня, незалежне ад іх нацыянальнасьці. Праваслаўная колонія ў Беластоку складаецца цяпер усяго толькі с 1000 душ, у тым ліку—найбольш беднята, работнікі і дробные рамесьнікі. Гэтые гарэмыкі, пакінутые самі сабе, правялі два папраўдзі страшэнные гады. У канцы, зразумеўшы, што без арганізацыі жыць нельга, яны звярнуліся аб падмогу да .. нямецкаго пастара! Пастар Цыркніц і утварыў для беластоцкіх праваслаўных арганізацію, зацьверджэную ўласьцямі. З народнай страўні нямецкай лютэранскай парахвіі за адзін толькі мінулый год выдано 49 680 абедаў без ніякай платы і 5.319м. грашмі. Дзякуючы просьбе пастара, нямецкіе ўласьці далі гродзенскаму праваслаўнаму сьвяшчэніку пазваленьне паехаць у Беласток дзеля адправы. Аб тых ненормальных варунках, пры якіх праходзіло жыцьцё тутэйшых праваслаўных, сьведчыць факт, што той жэ пастар многа разоў хрысьціў праваслаўных дзяцей паводлуг праваслаўнаго абраду. Гэтымі днямі дэпутація, зложэная с 6 асоб, ад імі праваслаўнаго насяленьня Беластока дзякавала пастару Цыркніцу за яго апеку над праваслаўнымі.

БЕЛАСТОК. У верасьні 1915 году Беласток выпусьціў местовые боны па 30 кап., 60 кап., 1 р., 1 р. 80 кап., 3 р., 6 р., 12 р., 30 р. і 60 р. Усяго выпусьцілі бонаў на 209,391 м. 30 фэн. 1 верасьня г. г. яны утрацілі сваю сілу. Место атрымало назад 208,600 марак. Рэшта бонаў на некалькі сот марак зьнішчэны або захованы колекціонерамі, як ваенная памятка.

У пазапрошлы панядзелак сыоністы зрабілі тут вялікі сход пад маршалкоўствам адваката Трэйвіша. Прамоўцы гаварылі на тэму аб пашырэньні на ўсім сьвеці сыоністычнай ідэі.

БЕЛАСТОК. Нямецкіе ўласьці пазволілі жыдом выхадзіць на вуліцу ў начы з 8 на 9 верасьня да 2 г., каб быць у бажніцы.

БЕЛАСТОК. 2 верасьня з аднэй крамы пры Рыбным рынку украдзено тавару блізка на 10 000 марак. Крымінальнай паліцыі ўдалося спаймаць вінавайцоў, і блізка ўсё украдзенае вернено.

ГОЖА, пад Гродняй. 2 верасьня тут памёр кс. Антон Давідовіч. Яго пахавалі у Гродні.

ГРОДНЯ. На пахаронах кс. Давідовіча з Гожай, адбыўшыхся з вялікай урачыстасьцю, здарыўся гэткі сумны прыпадак. У вазох, каторые ехалі за труной, паліцыя, даведаўшыся загадзя, выкрыла, што сядзэньня зроблены з мяхоў з жытам, каторае і было сконфіскована.

Гэта вызвало вялікі смутак у ўсіх учаснікоў урачыстасьці.

ГРОДНЯ. Вядомы афрыканскі падарожнік, б. рэгент Браўншвэйгскі, Адольф Фрыдрых, прыехаў у нашае место агледаць яго.

Тутэйшые жыхары, каторые робяць пры нямецкіх урадах, адкрылі сваю хаўрусную пекарню, каб вызваліцца ад залежнасьці ад тутэйшых пекароў.

КРЫНКІ. Адна тутэйша гандлярка-жыдоўка, атрымаўшая пазваленьне таргаваць сахарынай, выдаванай нямецкай уласьцю, закупіла недзе патайна ешчэ вялікую партыю сахарыны, каторай і таргавала. За гэта яе пакаралі штрафам 300 м. і адабралі пазваленьне на таргоўлю сахарынай.

АЛЕКШЫЦЫ. Адзін гандляр вёз з Беластоку у Крынкі бочку мёду 25 літроў. Пры обыску выкрылі, што ў бочцы была бляшанка с чыстым спіртам. Спірт сконфіскавалі, а гандляра аддалі пад суд.

ПЛЯНТЫ. У тутэйшых ваколіцах ізноў паявілося многа ваўкоў з густых лясоў з-за Нёмана. У вёсках Вялікае Сяло, Станкевічы, Ганчары і Буцілы шкоднікі парэзалі многа жывёлы.

КУЗЬНІЦА. За кражу значнай меры жыта і іншаго жбожжа у тутэйшаго селяніна двое вінавайцоў-селян засуджэны на 50 руб. штрафу. Вядомы канакрад Адольф Лен

---

## I. Мітычные і абрадавые песьні.

### 1) Калядные песьні.

(Гл. «Гоман» № 72).

**Шчэдроўка.**

Ой, у Турові, на мураві,
Сьвяты вечар, сьвят!
Стаіць цэрква нова, нераблёна;
Сьвяты вечар, сьвят!
А ў тэй цэркаўцы тры аконачкі:
Сьвяты вечар, сьвят!
Ў першым аконцы яснае сонцэ,
Сьвяты вечар, сьвят!
А ў другім аконцы ясен месяц,
Сьвяты вечар, сьвят!
А ў трэйцім аконцы ясные зораньк і.
Сьвяты вечар, сьвят!
Ой ня ёсць то яснае сонцэ,
Сьвяты вечар, сьвят!
А ёсць то ён сам Госпад Бог.
Сьвяты вечар, сьвят!
Ня ёсць ён ясны месяц,
Сьвяты вечар, сьвят!
А ёсць жэ ён Сын Божы.
Сьвяты вечар, сьвят!
Ня ёсць яны ясные зораньк і,
Сьвяты вечар, сьвят!
А ёсць яны Божые дзетухны.
Сьвяты вечар, сьвят!

**Шчэдроўка у чэсць гаспадара.**

За дваром, за новым, цёмная хмара;
Ой, то не хмара, а яры пчоланькі.
Славен Бог наш на Нябёсах!
Ляціце, пчолы, у райскі востраў,
Займайце, пчолы, дванадцаць вульлёў.
Славен Бог наш на Нябёсах!
Нясіце, пчолы, салодкі мяды,
Салодкі мяды, залацісты воскі.
Славен Бог наш на Нябёсах!
Залатые воскі Богу на хвалу,
Салодкі мяды пану на славу.
Славен Бог наш на Нябёсах.
Песьня спета проціў лета,
Проціў году шчасьліваго.
Славен Бог наш на Нябёсах!

**Шчэдроўка у чэсць гаспадарскаго сына.**

Пад лесам, пад высокім,
Шчодры вечар, добры вечар!
Ой там коней стадо ходзіць,
Шчодры вечар, добры вечар!
А ў тым стадзе конь гаворыць:
Шчодры вечар, добры вечар!
Ніхто-ж мяне не зыймае, не аседлае!
Шчодры вечар, добры вечар!
Адазваўся малады (*імя хлопца*):
Шчодры вечар, добры вечар!
Я-ж таго каня зыймаю і аседлаю,
Шчодры вечар, добры вечар!
І паеду ў чыстае поле на паляваньне,
Шчодры вечар, добры вечар!
І выпалюю дванадцаць лісоў,
Шчодры вечар, добры вечар!
Ды ешчэ кунку маці на шубку.
Шчодры вечар, добры вечар!
Угневалася яго мілая.
Шчодры вечар, добры вечар!
Ой, ня гневайся, мая мілая!
Шчодры вечар, добры вечар!
Ты-ж мяне не гадавала,
Шчодры вечар, добры вечар!
Гадавала мяне мая матанька,
Шчодры вечар, добры вечар!

зэты даносяць, што ўжо назначэн дзень пачатку рэволюціі, калі адбудзецца вялізарная дэмонстрація проці вайны і пачнецца агульная забастоўка ўсіх работнікоў. У Турыне узняліся на вуліцах вострые бітвы; многа работнікоў забіто, многа арэштовано. У Бэргамо былі вялікіе разрухі; спынены тэлеграфные зносіны.

ВЕНА. Забойца рэакцыйнаго міністра-прэзыдэнта гр. Штюрка, Фрыдрык Адлер, засуджэны судом на кару сьмерці, памілаван імператарам з заменай кары на 18 гадоў катаргі.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**7. IX. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці Фляндры новые вострые артылерыйскіе бітвы. На поўначы ад чыгункі Руле-Іпр англічане атакавалі на фронці 4 кіл. шырокім, але ўсюды адкінуты агнём.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На фронці Эн і ў Шампані — жывейшая баевая чыннасць. Артылерыйская бітва на паўночным беразі Маасу, пад Вэрдэнам, трывала да познай ночы. На поўдні ад Бомон вюртэмбэрцы ўварваліся ў варожые акопы і выкінулі адтуль ворагоў у бітве ручнымі гранатамі.

У бітвах на паветры збіты 9 варожых самалётаў і стрэламі з зямлі — 5.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Расейцы далей адступаюць на паўночны ўсход ад ніжняго цячэньня Дзьвіны. Наша кавалерыя адціснула ар'ергард ворагоў на поўдні ад Нітаў і пры Нэў-Кайпэн. Між возерам Лобэ і Фрыдрыхштадтам ворагі адступаючы падпалілі вёскі. У Усть-Дзьвінску здабыты 40 гармат, у тым ліку 22 — вялікаго калібру.

**8. IX. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці ад Гутгольцт да каналу Коммін-Іпр момэнтамі вельмі вострый агонь.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Артылерыйская бітва пад Вэрдэнам трывае далей. На ўсходнім беразі Маасу — барабанны агонь. Ад Самонье да дарогі Бомон-Вашэровіль французы вялі сільную атаку, але былі адбіты сільным агнём і штыкамі. Страты іх—вялікіе. Сягоньня раніцай на фронці Бомон-Бэзонво вельмі сільны агонь.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Між Балтыцкім морэм і Дзьвіной баевы фронт стаіць на лініі Бэндінг-Нітаў-Нэў Кайпэнгоф. На Дзьвіне ворагі пакінулі свае пазыціі на заходзі ад Кокэнгузэн.

На полі бітвы пад Рыгай мы знайшлі ўсяго 316 гармат.

**9. IX. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Фляндры крапчэйшы агонь. Пасьля барабаннаго агня пачаліся сільные наступленьня англічан на паўночным усходзі ад С.-Жульен, але ўсюды былі адбіты. На поўдні ад каналу Лябассэ і наабапол Скарп разведкі англічан былі дарэмны.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пад Вэрдэнам і на ўсходнім беразі Маасу ўвесь дзень трывалі вострые бітвы. Укрываючыся ў тумане, ворагам удалося ўварвацца ў лес Шом і пасунуцца ўпярод у кірунку Орн. Энэргічнай контратакай мы бліска ўсюды адкінулі іх назад. Толькі кусок лесу Шом і хрыбта на ўсходзі ад яго астаўся ў руках ворагоў. С трох дывізій, каторые мелі вельмі цяжкіе страты, мы ўзялі больш за 300 палонных.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Між Балтыцкім морэм і Дзьвіной мы ў некалькіх пунктах адціснулі расейскіе пярэдніе варты.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА, 6. IX. **Італьянскі тэатр:**

Учора Монтэ С. Габріэле некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі Але радасць нашых ворагоў была лішне ранняя: контратакай мы скінулі іх з гары, каторую цяпер крэпка дзержым. На палудзеннай часьці плоскагорыя Карст бітва трывала ўвесь дзень. Мы выкінулі італьянцоў з іх пярэдніх акопаў. 4 і 5 верасьня мы ўзялі тут 160 афіцэроў і больш за 6,300 салдатоў.

Італьянскіе лятуны ешчэ двойчы атакавалі Трыэст.

ВЕНА. 7. IX. **Італьянскі тэатр:**

Італьянскіе лятуны далей робяць налёты на Трыэст.

Усе штурмы італьянцоў на плоскагоры Карст адбіты с цяжкімі стратамі. На Монтэ С. Габріэле трываюць вострые бітвы. Мы адбілі 10 атак. Ад пачатку адзінадцатай баталіі на Ізонцо, значыць, ад 19 жніўня, мы ўзялі ў палон больш за 500 афіцэроў і 18.000 салдатоў.

У начы с 6 на 7 верасьня мы у адказ на налёты на Трыэст зрабілі налёт на Вэнэцію, дзе абкідалі бомбамі арсэнал і ваенные будоўлі.

ВЕНА. 9. IX. **Італьянскі тэатр:** Монтэ С. Габріэле і іншые адрэзкі фронту Ізонцо стаяць пад сільным абстрэлам італьянцоў.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. У гутарцы з боўгарскімі журналістамі, каторые аб'еждзалі ваенные фронты, Людэндорф, між іншым, сказаў:

„Мы дойдзем пабеды. Неспадзеванак быць ня можэ. Я пераконан, што **мы закончым вайну у некалькі месяцоу**“.

ВЕНА. «N. Fr. Presse» друкуе гутарку свайго карэспандэнта з боўгарскім ваённым міністрам, каторы між іншым сказаў:

„Я астаюся оптымістам і пераконан, што **мы шыбка прыбліжаемся да міра**“.

БЭРЛІН. У начы с 4 на 5 верасьня нашы марскіе лятуны скінулі на Дюнкірхэн і С. Поль 2.300 кіл. бомб (150 пудоў).

БЭРЛІН. Адна з нашых падводных лодак 4 верасьня абстрэляла англіцкі порт Скарборо. Узнялося некалькі пажароў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У паўночных марскіх водах затоплено ізноў падводнымі лодкамі 30.000 тонн.

БЭРЛ. (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіане, канале Ляманш і ў Паўночным моры нашы падводные лодкі ізноў затапілі 19.500 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак затапіла 19 судзен ёмкасьцю 53 000 тонн, у тым ліку 2,500 тонн (150.000 пудоў) пшаніцы.

БЭРЛІН. У блокадным поясе навакол Англіі ізноў затоплены 23.000 тонн



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.